**Янка ЛАЙКОЎ** нарадзіўся ў 1979 годзе ў пасёлку Мётча Барысаўскага раёна. Закончыў сярэднюю школу. Вучыўся на філфаку Белдзяржуніверсітэта. Друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

## ВАРТАВЫ ЛЯ БРАМЫ МАР

Па інерцыі мы ўсё яшчэ кажам "малады паэт", замест таго каб казаць "новы". Бо няма паэтаў старых і маладых. Ёсць толькі паэты й не паэты. Мяноўна кожны новы паэт прыносіць з сабой свой свет, змушае чытача й прыхільніка глядзець на ўсё ягонымі, паэтавымі вачыма.

Янка Лайкоў – паэт сучасны. Ён думае, узрушаецца, бачыць тое, што чакала быць убачаным нечакана.

Глыбіня, вышыня, прастрань – у іх жыве аскетычнае й прачулае слова Янкі Лайкова.

Традыцыя й наватарства – яны – два крылы жаўруковага палёту ўтрапёна-замроенага паэта.

Быў я шчаслівым сведкаю, як маці Янкава чытала на памяць сынавы вершы. Парадаваўся й пазайздросціў. Інтэлектуальнее новая беларуская паэзія, інтэлегентнее чытач. І зусім натуральна чытаць у паэта:

*Ужо змяніў світанак ночку,*
*А матчына не спіць рука.*

Сваю закаханасць у беларускае паэтычнае слова Янка Лайкоў выказаў гранічна ўзнёсла:

*Бо ўласных я не бачу слёз –*
*Паэзія мне засціць вочы.*

У слязе адбіваецца ўвесь свет, а ў паэтавай ён цяплее таямнічасцю й глыбінёй.

Янка Лайкоў называе сябе вартавым ля брамы мар.

У браму гэтую ён дазваляе зайсці толькі чысціні, якая пачуе здалёку "сляды зямных дажджоў".

**Рыгор БАРАДУЛІН**

***

... І прыкра нам, што мы — багі,
Што падуладны нам стыхіі,
Святло калысак, змрок магіл,
Святыя дзеі і ліхія.

Мы знаем Веру і Любоў,
Мы разумеем іх прыроду,
Ды іх, аслепленых рабоў,
Кідаем прагнаму народу,

Каб не змаглі пазбыцца мы
Таго, што здолелі адужаць,
Каб вы, сыны адной труны,
Аддалі д’яблу свае душы!

***

І зноў ты з намі, Дух,
Аслеплены і бляклы.
Ты спарадзіў нуду
У нашых душах спрахлых.

Наш боль сцякаў ракой,
Калі ты нас паклікаў
Зазнаць святы спакой
І ў боскіх ласках знікнуць.

Ты нам казаў пра Сон,
Пра спадкаемцаў д’ябла,
Што клічуць у агонь
Самотным спевам вабным.

Калі ж ты зноў прыйшоў —
Мы не цябе чакалі.
Па кропельках збіралі
Сляды зямных дажджоў...

**НА МЯЖЫ**
**Трыпціх**

**I**

Сарцавіна маўклівасці ледзь стрымлівае
Ваніты ад сузірання сябе.
Я гляджу туды — там нехта ёсць.
Ён, як і я, — засяроджаны і маўклівы.
У ім няма беспрычыннасці і, мабыць,
Няма выніковасці
І любові.
Бо гранне пахілых струнаў
Мае поўную адсутнасць
Музычнага афармлення.
Таму не згаджаецца ён са мной,
Таму ён працягвае бойку са мной,
Таму —
Ён дарэшты ва ўладзе маёй.

**II**

Маўклівы крык.
Патанае ў саляных шатрах верасень.
І сведка часу —
Полымя забітай душы,
Што ў крэматорыі першых дзён
Не ведае пра існаванне сэнсу.
Імгненна наступае цень.
— Дзе?
Што дзе?

— Цвік!
— Чый?
— Яго! Яго! Яго!

**III**

Сонца прыкрыта коўдраю ценю.
Я вырастаю ўвесь час,
Пакуль
Яно ідзе да мяне,
на мяне.
О! Іклы сёння вострыя як ніколі...
Гэта мне дапаможа тут.
Тут!
Драпежная сутнасць раскрыецца потым.
А зараз —
Імгла мая...
Логвішча каранёў дуба.
Згуба —
У адсутнасці болю між мар.

***

*Дзядзьку майму*
*Анатолю Фёдаравічу*

Здаўна продкі нашы былі ціхія,
Задуменныя, спакойныя, рахманыя.
Мо праз гэта не мінала ліха іх,
Ды не частавала неба маннаю.

І праз лёс сівога Краю Роднага,
Праз усю крывіцкую гісторыю
Бог данёс да нас нашчадка годнага,
За паўвека хіжаком не скоранага.

І дарма што жытачка не песціла –
Больш ламала, біла і кідала,
Шчыры беларус па думак змесціву,
Ты не знік, а ўзвысіўся гадамі!

## КАХАННЕ СМЕРЦІ

Пацалунак стыне водарам лотаці
На вуснах маіх.
Ты адштурхоўваеш цень свой ад постаці,
Спуджаны мніх.

Сонца кахае соннымі промнямі,
Мора — няўрымсліва-роспачным
норавам
Хваляў сваіх.

Вецер будуе на пляцы нам помнікі,
Мой улюбёны мніх!

***

Дай святло мне вачэй сваіх,
Падаруй мне абсяг нябёсаў.
Я аддзячу табе, затым
Апынёмся мы ў Доме Боскім.

Мы адчуем дыханне зор,
Іх сумятлівы шал пабачым,
У вачох прамільгне прастор
І нястомны агмень юначы.

Будуць нас калыхаць вятры
На нябачных сваіх арэлях.
Нас з’яднае апошні ўздым.
Толькі, мілая, вер мне, вер мне!

## СОН

Развінае пялёсткі лотаць –
Душа прагне лётаць.

Плача Палессе песнямі –
Залевы не спесцілі.

Слязьмі брыняюць разоры –
Сінія спяць азёры.

## СЯБРУ

Апошніх дзён застыг уздых,
Трымціць наструненая восень.
І мы з табою — як браты,
І душам нашым разам млосна.

Дождж сыпле кроплі пакрысе,
І сняцца нам былыя стрэчы,
Калі здавалася, што вечна
Вясна струменіць у красе.

А зараз — падае вада
На дах сталічнае кавярні,
І мы з табою ў ёй — як вязні.
Імчыць ліхіх гадоў арда,

І, здэцца, плюнулі б на ўсё!
Але самота душыць горла,
А ўсе вакол — нібыта ўмёрлі.
І мы заказваем па “сто”.

Апошніх дзён застыг уздых,
Трымціць наструненая восень,
І сніцца нам, што мы ўваскрослі,
Што мы такія ж, як тады.

***

Стракаты сон працяў імжу:
Праменне падае на голаў мне.
Я спавядаюся крыжу
Глухімі стогнамі.

А пада мною кленчыць люд,
Ратунку ў свайго Бога просячы.
А мне самотна й скрушна тут
Да роспачы.

І енчу я з апошніх сіл:
– О, гора мне! О, гора мне!
А ў небе, небе, небе – сінь.
І промні падаюць на голаў мне.

## ЗЛЫЯ КАПЕЛЮШЫ

Зліваюцца шпалеры ў мутную плынь,
Цвіце невядомая кветка побач.
На паляванне выходзяць капелюшы,
Капелюшы выходзяць.
Нервова знаёмячыся з пародамі,
Адаптуючыся да невядомых абставінаў,
Прымаюць няправільныя погляды,
Погляды няправільныя.
А потым смяюцца ў вочы
І знікаюць у цемры.
А ты застаешся адзін,
І калі пашанцуе — з’едзеш з глузду.

## ВОЛЬНЫ ПТАХ

І зноў рукі — крылы.
На мяжы быцця і небыцця
Світае трывога святая. Болей
Не будзе абрыдлага болю.
Я — Вольны Птах.

А ўнізе — зямля белая
Ляжыць. Аблокі сплываюць за
Прастор пад зорамі. Бліскавіцы
Мігцяць і падаюць ніцма.

Вочы загінуць там,
Дзе не будзе мяне заўтра.
Крылы згараць там,
Дзе не будзе мяне заўтра.
Я застануся там,
Дзе не будзе мяне заўтра.
Я — Вольны Птах.

## МАНАЛОГ ЖАЎНЕРА

Ты мяне пачакай,
Не сыходзь
У бязмежжа спякотнай пустэльні —
Скуты я ланцугамі грахоў,
Куляй скрухі
Наскрозь прастрэлены.
Не сыходзь,
Пачакай мяне,
Абдымі і скажы, што верная.
Я — жаўнер на праклятай вайне,
Ты — жаданая, Белая смерць мая.

## РЭМІНІСЦЭНЦЫЯ

Злаві мяне!
Я – тут!
Хіба не бачыш мяне?
Нешта грудзі сціскае...
Не магу дыхаць.
Выцягні ж з багны маю душу,
Брудную і непрыгожую,
Непрытомную заўсёды,
Ад самага пачатку дзён,
Калі ў крывавым мроіве
Ўзрадзілася яна
Наноў.
А зараз —
Патанаю,
        патанаю,
                патанаю...

## ДУША МАЯ

Ноч усю цябе жахі пасвілі,
Ты крычала, нібы раджала,
Аплятала цябе і звязвала
Раздваёнае Змея джала.

Рэха ціха за шклівам енчыла,
Цемра моўчкі крысом ахутвала
Хатніх рэчаў абрысы млечныя.
Хцівы Змей адлятаў ад хутара.

***

Дванаццаць свечак на куце,
І кожная — згарае,
А велізарны смутны цень
На хату наступае.

Ратуе толькі нас агонь –
Гарачы, аж балючы.
І гэты сон вякоў спакон
Трываць,
Трываць нас вучыць.

***

Вятры нізеюць за смугой,
Снягі валодаюць самотай,
Сляза сцякае за слязой,
Нібы пакрыўджана, употай.

Няхай віруе злы мой лёс,
Мне даспадобы гэта роспач.
Бо ўласных я не бачу слёз –
Паэзія мне засціць вочы.

***

Твае рукі цалавалі анёлы
У белых акрыленых рызах.
Я прасіў у цябе дазволу
Адною табою трызніць.

Перш чым неба долу апала,
Твой дазвол прагучаў у высях.
Анямелае рэха спала,
Я адною табою трызніў.

***

Імглісты прысак ледзь ліпеў.
На ўзмежку пасвіліся коні.
Мой бацька спаў. А я сядзеў,
Забыўшыся зусім на стому.

На грудцы сена соп Байкал,
Раз-пораз натапырваў вушы,
Калі ледзь чутны шолах траў
Яго сабачы слых парушваў.

І цені коней над ракой
Мой зірк цягнулі, чаравалі.
Святая ноч, святы спакой
Памалу ў вечнасць адплывалі.

**МАЦІ**

Змярканне лепіць цень да столі.
Малы, цягнуся, каб схапіць
Ружовы бохан спелай поўні,
На срэбры пальцы сашчапіць.

Матулін твар усмешкай ззяе,
І шчасця шчырая сляза,
Як долу падае – ўзрастае
Дзівоснай кветкай хараства.

І песцяць стомленыя вочы
Спакой маленькага сынка.
Ужо змяніў світанак ночку,
А матчына не спіць рука.

***

Я – вартавы ля брамы мар.
Ускоснасцю не раз забіты,
Нясе мой розум злы цяжар
Малітвы.

Туманіць вока мне мана
І вушы закрывае слота.
Малітва ж у мяне адна –
Самота.

***

О Хмара!
Зірні, абдымі мяне!
Крыжамі па аднаму
На кожнае вока прагняві
Бога свайго...
Крані блакіт
Чорнага птаха крылом,
Які з бязглуздай паверхні зямной
Узлятае,
Кружляе
І чорнай кропляй сцякае
У акіян неба...

***

Замчышчы тугі праступаюць скрозь
Уяўныя абрысы далёкіх гор памяці
І крывёю барвяняць світанак мой.
А дзесьці вецер ціха напявае песню.
Якую я недаспяваў яшчэ ў маленстве.
І дрыжаць павекі стамлёных вачэй.
Рэха кахання гучыць у апошні раз.
Цвеліцца цяпельца самотнае ля маіх ног.
Я — у Краіне Мрояў ужо даўно.

***

Калыханка пачынаецца з надыходам ночы,
Кожнае слова пачынаецца з даўно забытай
Гісторыі сівой даўніны.
Я зайздрошчу сёння таму,
Хто стаіць на мяжы,
Хто трымае нямое трымценне паходні
Ў далоні
І сам кажа шлях свайму сэрцу.
Такое – Дар Божы.

***

У тваіх валасах — каласы.
Сумна, сумна, мая багіня.
Твой ускормлены з ласкаю сын,
Я пакіну цябе і загіну?

Мо не варта казаць пра бяду,
Бо ўсё роўна ніводзін з нашчадкаў
Злых гадоў не супыніць хаду
І не зменіць адвечных парадкаў.

Буду кінуты я ў агонь.
Сумна, сумна, мая багіня...
Б’е халодная кроў у скронь.
У смузе патанае Радзіма.

***

Жудасныя абстракцыі
Дасягаюць памераў,
Раней не бачаных.
І маё вычварнае светаўспрыманне
Жахаецца. Я забываю сваё імя.
Помню толькі адно:
Святло праз святло
Пранікае імгненна,
Не пакідаючы ў сабе
Нават часцінкі
Болю.

***

Маім верным слугой
Быў сабака.
Маім натхненнем было
Сузіранне.
Драўляны кій
Мне паказваў кірунак.
І не хапала мне толькі аднаго –
Кахання.
Але што гэта такое?
Навошта яно?
І зараз жыву я паміж
Незразумелым і невядомым,
Зараз я –
Невядома і незразумела хто...

***

Я сустрэну цябе, Сонца,
Калі ў барвяных медытацыях
Пад чорным небам прамільгне
Выратаванне.
Я сустрэну цябе,
Калі толькі праз час,
                    праз крык,
                              праз халоднае маўчанне дрэў
Прыйдзе ў гэты свет
Ён —
Бог Айцец,
Бог Сын, Бог Дух Святы.
Раней —
Ніколі!

***

За расчыненымі дзвярыма –
Вочы наросхрыст,
За імі – пазалюстэркавы свет,
Там – постаць.
То – анёл у рыззі
Свечку трымае,
Забытую праўду Хрыстовую
Знае.

***

Разадраная на кавалкі
Ноч.
Упрыгожаны вянкамі
Крыж.
Я лунаю над вадой.
Крык
Адлятае ў неба.
Ноч.

***

Невідушчыя вочы
Прагнуць бачыць.
Вясноваю кветкай быцця –
Першааснова існасці.
І розум,
Стомлены,
Спрабуе дарэшты загінуць,
Каб зноў нарадзіцца
Не розумам — Верай.

***

А маладзік натхнёна ззяў,
Святло кідаў у вокны хаты,
З-за шкла ж самотна пазіраў
На зімку дамавік кудлаты.

Крактаў, нябога, лаяў снег
За тое, што насыпаў гурбы...
А нейкі чорны чалавек
Працёмнай ночы зведаў згубу.

У мройных пацерках – бяда,
У завірусе белай – скруха,
У бляклых зерках – д'яблаў дар –
Палеглы боль, што вые глуха.

***

Спакоем поўніцца пагляд,
Уся істота скіравана
Туды, дзе светлы Боскі Сад
Стаіць. І кволае адхланне

Зваротным поклічам гучыць,
Імкнецца ў роспачнае царства
Забытых мрояў. Ды спачын
Мне хутка цемрай вочы засціць...

Пярзстай зданню прамільгне
Свядомасць. Але позна будзе –
Я адыду туды, дзе снег
Спадае попелам у студзень.

***

На пагорку сцяна вырастала,
Мкнула з нетраў глыбокіх наверх.
“Нешта страшнае...” – травы шапталі,
“Нешта злое..." — казаў чалавек.

І трашчала зямля ад напругі,
Палымнелі кастры навакол.
Аграмадністым, гострым плугам
Разразала пачварына дол.

Дарасла яна ўрэшце да неба,
Здрыгануўся прыгожы блакіт.
Пацямнелае, ўспыхнула срэбра,
Ледзь заззяўшы, апаў маладзік.

***

Захраснуў Бог у прагных звягах,
Душа патрапіла ў сіло.
Я чую Бога немы лямант,
І бачны позірк мне Яго.

Не на крыжы ён — путы ціснуць
Хрыстова цела. Вецер дзьме.
І бачу я Святую Існасць,
І чуцен подых мне Яе.

Бывай, мой Бог! Бывай, збавенне!
Грувасціць думкі забыццё.
І чую я сваё падзенне,
І бачу,
        Бачу Небыццё!

***

Сполахі гэтага аграмаднага вогнішча
Нават сёння не даюць мне спакою:
Паласуюць вочы чырвонымі рысамі,
Знікаюць і з'яўляюцца адначасова
Ў бясконцых перападах
Штохвіліннага сузірання
І прагнуць, прагнуць паяднацца
З маёй грэшнай душой,
Якой ужо нічога больш не патрэбна,
Акрамя веры.
Але ж не:
Прарываецца скрозь мяне
Хваля ўсёпаглынальнай весялосці...
І —
Бясконцыя, бясконцыя, бясконцыя снягі.
Усюды, куды вока ні кінь,
Пустэча розуму,
Пустэча памяці,
І я —
Мікраскапічны і макраскапічны,
Патанаю ў крыніцах
Уласнага прагляду
Нейкае там
рэчаіснасці.

***

Прыцемак хавае цені.
Адвечны вораг мой – я сам –
Гуляе ў словы. Палёгка
Хутка будзе тут.

І святло разліецца,
І морак адступіць у ноч,
Бурштынавыя зоры паснуць.
Узрасце прадчуванне.

Множыцца расліннасць.
Кусціцца бачанне ў трох станах:
Уздойму,
                    нямога трымцення
І скону.

## ВОГНЕПАКЛОННІК

Разразаючы смутку тугую жарству,
Я брыду да цябе, мой Агонь!
Праз таўшчэзны дзірван да цябе прарасту
Каранём.

І няхай пасміхаюцца злыя жрацы
І пажадліва выюць ваўкі, –
Помню я, як ты скроні мае залаціў
Там, ля Чорнай ракі...

Ты мне песні спяваў пра дзівосны Сусвет
І даверліва рукі кранаў.
Я ж сядзеў і сляпымі вачмі, нібы ў сне,
На цябе пазіраў.

**ПРАДЧУВАННЕ**

Зноў розум грувасціць апошнія дні
Народзінаў, ці сконаў тваіх.
А ты ўжо прадчуваеш яе –
Рэінкарнацыю.

Крыжы ж не згараюць у Боскім агні –
Яны толькі абгараюць знутры.
Айцец мой!
Дай мне пратрымацца,
Дай мне забіць гэты боль...

А цесных аспрэчванняў мінулы факт,
Упрыгожаны лепшымі якасцямі (не тымі),
Падае на лязо.
Папалам!
(Рэінкарнацыя
Завершана.)

***

Гэты вечар цябе пакахаў,
Цалаваў твае вусны імглою,
Ну а сам у душы рагатаў
Над такою сваёю гульнёю.

І крышылася цноты шкло
На падлозе твайго кахання...
Гэты вечар не ведаў слоў,
Гэты вечар не ведаў світання.

***

Мяне параніла страла
І, палахлівая, трымцела,
Калі, бы птах, злятала ў тхлань
Маё аслепленае цела.

А дух у мітульзе канаў,
І вокам, набрынялым жудай,
Яго, скалелага, кранаў –
Спакойна пазіраў Іуда.

***

Непрадказальнасць часу –
З’ява, здрадлівая сама па сабе.
Нельга пабачыць лёс,
Калі не ведаеш, што такое час,

Альбо ўзляцець у паветра,
Не знайшоўшы загадзя
Сакрэту вечнай левітацыі душы.
Але не гэтае самае галоўнае:
Заўтра час будзе зноў
Гушкаць на сваіх арэлях
Сляпое чалавецтва,
Якое заўсёды верыцьме
У сваё існаванне.

## АДПАЛЫ АНЁЛ

На сценах тваіх галерэй
Мастацтва замглёна-талае.
Струменіць пякельная акварэль
З-пад скрыдлаў апаленых.

А з нетраў стомленых сноў
Трызнамі крохкага споладху
Выслізгвае слоў хараство,
Запалам волі ахопленае.

Твой сон патрывожыць ён –
Вандроўнік, адрынуты вотчынай.
Зазнаўшы траесны скон,
Даткніся балесных воч яго.

На сценах тваіх галерэй
Мастацтва замглёна-талае.
Зірні. Супыніся. Сустрэнь
Пагляд анёла адпалага.

***

Вядзьмарчыны вочы ў бязмэтнасці ночы,
Вядзьмарчыны словы, што з мёртвае мовы
Спаўзаюць у вушы мае, як у схові...
Маўчы! Не крычы... Нехта сочыць...
Я крочу
Па ціхіх завулках самотнай Арыды,
Па чорнай сцяжынцы забітага болю.
Мой розум не светлы. Ён цёмны і кволы,
Заліты, як келіх, атрутай агіднай.
Маўчы! Не крычы! Апрытомней і слухай,
Як ноч засцілае сляпое каменне,
Як дрэваў заснулых нямое трызненне
Свой сэнс набывае ў адметнасці рухаў.
Прачніся ж, Убач!
Бо
Чырвоныя плямы спадаюць у прорву,
Чырвоныя плямы знікаюць і гаснуць.
Глядзі: ў падазрона заплеценых словах,
У прывідна-роспачнай споведзі поўні
Хаваецца белая логіка пасткі!

## КРЫЛЫ

О паўночны, няўрымслівы вецер!
Ты дыханнем сваім абудзіў гэты край
І, крануўшы крысом валасы Яе ледзьве,
Раптам сцішыў свой шал і... апаў.

А Яна засмяялася, рукі раскінула ўбок і
Кветкай шчасця заззяла ўсмешка Яе.
Ад зямлі адарваліся белыя ногі,
Ад душы — небакраем акрылены цень.

Ён лунаў у вышынях свабодным анёлам,
Белых пёраў святлом апаліўшы зямлю.
Васількамі спатканняў цвіло наваколле,
Пацалункаў каралі накрылі раллю.

Але покліч нябёсаў пачуў. І адразу,
Крылы склаўшы, стралою імклівай зляцеў
У бяздоннае сіняе мора экстазу
Святкаваць свой апошні народзінаў дзень.

## ДЗЕНЬ ВЕРЫ

Імгненні, расцягненыя па снезе.
Гукі віяланчэлі ўтвараюць сістэму,
Якая выходзіць
За рамкі зададзенай тэмы.
Вір смокча мой мінор. Анёлы
Крыламі вены парэзалі.
Болю! Болю! Болей!
Гукі віяланчэлі сягаюць да неба.
На праталінах —
Імгненні расцягненыя.
Сорамна,
Што не пабачылі Бога мы.

***

Я накідаю алоўкам на паперы
Сумна-велічны пейзаж зімы.
Будзе мой малюнак белы-белы,
Буду я – ссівелы і нямы.

Я прыкладваю далонь да сэрца –
Ні біцця, ні руху не чуваць.
Божа мой! Чаму яно не б'ецца?
Прадчуваю: скону не стрываць.

Лекі, травы, прахалода ліўня –
Ўсё лухта. Надзея – як мана.
Цела стыгне. І істота гіне.
А душа? Душы даўно няма.

## СТАРЫ МЛЫН

Каля рачулкі безназоўнай
У светлай вотчыне маёй
Ёсць млын стары, ад вока схоўна
Спавіты даўнінай нямой.

Ён тут спрадвеку. Невядома,
Хто збудаваў яго і як.
Не раз, паўдзённай гнаны стомай,
Спачыць сюды прыходзіў я.

Рабілася світальна, добра
І цёпла неяк на душы
У гэтых сценах прахалодных,
У гэтай нерушнай цішы.

Калісь было: прыспаў змярканне
І падхапіўся сярод зор,
Як быццам хтось у сне параніў,
Па сэрцы паласнуў лязом.

Прыўзняўся, хутка звык да змроку,
Паслухаў ценькі цёк вады,
і праз рыпенне крохкіх кроквай
Чыесьці крокі ўчуў тады.

І нехта цьмяны, велізарны
Наўпрост мне ў вочы зазірнуў,

Сваім паглядам, змрочным, хмарным,
Ён мне душу перавярнуў...

З тае пары я беззваротна
Закуты ў стылыя ільды,
З у душы, пустой і мёртвай,
Сціхотна да жуды заўжды.

**ЗМЯРКАННЕ**

Прысмерак вечаровы сціхотна кладзецца
На спавітыя задуменнем абшары.
Сонца – маці майго адзінокага сэрца –
На захадзе спеліць пажары.

Мары людскія знаходзяцца дзесьці
Там, дзе гуртуюцца шчыльна
Бялёсыя, пульхныя неба дзеці –
Ссамотненыя аблачыны.

Гарлачыкам развінецца здзіўленне,
Калі з самай высокай званіцы,
Асляпіўшы абсяг на імгненне,
Нібы вогненны боль навальніцы, –
Бог Святла долу зрынецца ніцма...
...На захадзе далягляд ільсніцца.

## ВІНА

Невыносны цяжар.
Невыносныя сны.
На буянне вясны
Ён зусім не зважаў.

Ён адно толькі меў
У вачох, на душы:
Ў гэтым свеце не жыць
І кахаць толькі смерць.

...І кахаў толькі смерць,
Піў благое віно,
А навокал адно:
Крутаверць, крутаверць...

Перад сконам адчуў:
Не стае... не стае!
І пытанне ўваччу:
"Што мне з смерці тае?"

**ПАМЯЦЬ**

Сонца выпальвае ўспаміны твае,
Яны ўваскрэснуць толькі у сне –
Згадаюцца цьмянымі плямамі болю
І жахам з уласным сумленнем двубою,

Калі ненавідзеў ты ўсё, што любіў,
Калі свае ўласныя вершы паліў,
Калі прачынаўся у чорнай цішы
І ціха скуголіў ад бруду ў душы,

Калі не трываў нават ценю свайго
І марна маліўся на чорных багоў,
Калі, адарваўшы сваё ад сябе,
Пакінуў усё і кудысьці пабег...

Ад сонца збавення няма у жыцці:
Узяў — заплаці, аддаў — заплаці!
Няма чым плаціць — нараджайся ізноў,
Каб зведаць усё, што ты зведаў даўно!

Бо памяць не ведае страты сябе,
Бо сам ты не знаеш, што трэба табе!

**СОН**

Апаўночы плакалі зоры
Над апусцелай калыскай.
Плакаў і ветах суровы,
І неслух-вятрыска.

Толькі я чамусьці не плакаў:
Апантана надзімаў аблокі,
Шукаў сузор'і і знакі,
Высочваў свой цень глыбокі,

А над апусцелай калыскай
У цёмным эфірным моры
Плакаў неслух-вятрыска,
Плакалі моўчкі зоры.

**НЯЗВОДНАЕ**

На паверхні пашарпаных сцен
І на твары братоў-езуітаў
Клаўся змрочны, сутонлівы цень,
Неспатоленым болем спавіты.

Я, знямоглы сляпы ерэтык,
Сярод цемры бясконцай, адчайнай,
То нясцерпна зрываўся на крык,
То вымройваў зацята маўчанне.

А пасля, у трывожным паўсне,
Я уздрыгваў раптоўна, нібыта
Праз парожнюю стынь на мяне
Натыкаліся рукі Нябыту.

## МАРА

І не Богава і не мніхава
не тваё яно і не іхняе
яно
            пахне
старымі прымхамі
            яно
ўладна ўсіх закалыхвае
            яно
пудка уночы ўздрыгвае

немінучасць сканання ветаха
нас катуе думкай нязводнаю
што нікому не ўнікнуць гэтага
і не зведаць яго ніводнаму

імітацыя руху Сонца
набліжае да высокае моцы
купал зорнага неба над намі
набліжае да страты памяці

о Агністае Царства
мара
напаткаць цябе —
марная.

**УСПАМІН АБ КРЫМЕ**

Як прымрою гару Ай-Петры –
Ўраз драбнее любое гора!
Чайка крыламі йрве паветра,
Чайка падае строма ў мора.

Ў сіняй высі – ніводнай рыскі,
Да ўзбярэжжа збягаюць тропы,
І у засені кіпарысаў
Сум нямее і нікне клопат.

Крым – натхнення майго крыніца,
І прызнаюся – ці паверыце:
Крыму можна здзівіцца
Й памерці!

***

Прысненне дзіўнае і лёгкае:
У сціхлай завадзі рачной
Шчупак самотны гучна плёхкае
І цені зыбяцца чаўноў.

А дальш, у чаратох прыстоеных,
Дзе звыкла жамяра гудзе,
А гукі дыхаюць сутоннямі –
Ступае нехта па вадзе.

Аброслы раскаю і згорблены,
Пасрэбраны увесь луской,
Спавіты воднай прахалодаю,
Павольна ён ідзе ракой.

К яму хінуцца вербы ніцыя,
І цішу поўніць дзіўны звон.
І падаецца мне, што быццам бы
Так з рыбамі гаворыць ён.

І вочы цёплыя паблісквають
Сярод зялёных валасоў
Ды іскры ясныя распырскваюць
На мой далёкі, светлы сон.

## ДАСВЕЦЦЕ

Ноч, поўная высокага жалю,
На самоце канала.
У прадчуванні пажару
Стаіліся стылыя далі.

На ветаха вейках дрыжалі
Світальныя слёзы расстання.
Ноч, поўная высокага жалю,
Сканала,
Не дачакаўшыся рання.

## МАНАЛОГ ТАПЕЛЬЦА

Кінуся з галавою ў вір –
Рэчка засціць вочы вадой мне,
А халодны і мяккі жвір
Мяне прыме ў свае абдоймы.

У дрыготкай, плыўкай смузе
Голас рога прачнецца трубны, –
Знікнуць рыбы і гады ўсе,
Распадуцца русалак гурбы.

Да мяне сам Цар падплыве
І ласкава асвенціць глеем
Валасы на маёй галаве,
Мне ж падасца — ялеем...

## ЗАПАВЕТ

прысак раздзьмухай адчуй
боль не боль роспач не роспач
калі німб паўстане ўваччу
калі поўня ўзыдзе тройчы
калі ўквеціцца твар не твой
сумна-прывідным прыпамінам
калі ўскоўдраны мглой сувой
ахіне цябе і абдыме

напярэймы табе скрозь сон
вымкне яскарка разумення
поўня поўная галасоў
на каменне ставай каленьмі
на нябёсы глядзі і ведай
ведай тое што нельга ведаць
ведай тое што нельга бачыць
ведай тое што нельга чуць

і вітай маладую ісціну
мрою дзён сарамліва кратай

***

Твайму целу карцела
Адчуць радасць судакранання.
За вокнамі сцюжа люцела.
Ранне.

Галінкі бэзу аголеныя
Па шкле шкрэбалі: “Годзе...”
Стыгла прамоўленае...
Поўдзень.

На шалі трывання твайго
Ўзлягалі імгненне і вечнасць.
Чакаў нечага на дварэ ізгой –
Вечар.

На сумёты без мэты глядзела,
Цьмянелі ільдзінкі воч.
Адзіная ў гэтым свеце надзея
На ноч.

## САНЕТ

На дне глыбінным акіяна сноў
Прыстала і спачыла мая вера.
Патрапіўшы ў глухі і цесны нерат,
Яна не чуе поклічу званоў.

І кожны год дзівоснаю вясной,
Як бачу яе роспач невымерны,
Ірвуць душу маю сумлення церні,
Нявечаць розум ранаю скразной.

Настане час – і згіне беззваротна
Усё: і гнеў, і радасць, і маркота.
Тады тапельніца і ўзрушыцца мая,
Да здрадніка сваё аблічча зверне
І пацячэ – насамрэч і наўяў –
Крыніцаю світальнага натхнення.

***

Можа, бачылі: спячых твары
Дзіўна палатнеюць дасвеццем,
Нібы попелам нейкім шарым
Абсыпае іх ранішні вецер,

Нібы так іх кахае неба,
Як кахае іржавыя пожні,
Як кахае маладзіковае срэбра,
Як кахае закаханага кожнага.

Мулка ў мроях уласных спячым:
Пераржыць бы дасвецця хвілі...
Можа, бачылі: душы плачуць,
Бо не хочуць ісці ў магілы.

***

*Ірыне Р.*

Паненка, цяжка жыць на гэтым свеце!
Паненка, а ці ведаеце Вы,
Што Вы і я раней былі — як дзеці,
А зараз — з сумам у вачах сівым.

І Вы не мройце боль, і не шукайце
Таго, што не існуе больш нідзе.
У Тагасвецці не даруюць нам пракляццяў,
Як не даруюць тут святла надзей.

## КРЫК АГНЮ

Па расталых ледавіках вачэй,
Па храмах непрытомных твараў,
Нявечачы крыжы-купалы,
Пакідаючы за сабой акіян нематы,
Бягу, імчу, нібы вецер, заўзята-ўтрапёна.
Мае рукі хвалiста-тонкiя
Сведчаць аб выключнай мэтаскіраванасці.
Прагнасці! Прагнасці! Прагнасці!
На спадзістых стромах стыгну,
збянтэжаны разнатраўем далін;
І, мару аб смерці імгненна аявіўшы,
Крычу, імчу,
Размахваючы ў паветры паходняй-джалам!

**АГОНЬ І Я**

Распластаны, раструшчаны Ценем Смерці, ляжу на зямлі адзін. Кружляе нада мною, спускаецца ўсё ніжэй і ніжэй вялізарны чорны птах. Ён адчувае пах маёй крыві і чакае свайго часу. Час хутка надыдзе.

Але бачу: ідзе нехта – невыразная постаць на фоне пустэльнага краявіду. Намагаюся прыўзняцца і, задыханы, падаю зноўку, конча нерухомею, стыгну пакрысе. Нехта падыходзіць, становіцца побач. Ён малады як Бог.

"Ты хто?” – пытаю.

“Я –Пілігрым", — чую ў адказ.

“Ты прыйшоўдзеля мяне?”

“Не! Не! Не!"

Пілігрым знікае. Я пачынаю разумець, што яго ўвогуле не было тут ніколі. Я – адзін. Бясконца адзін. Цэнтр Сусвету, які стварыў сябе сам. Тое, што я чую – усяго толькі рэха былога, тое, што я бачу – адны ўспаміны. Мяне нібыта няма, але я ёсць і я паміраю.

“Крум! Крум! Крум!” – крычыць птах, пралятаючы зусім нізка. Я нават адчуваю сваім разгарачаным ліхаманкаю тварам рух паветра пад яго крыллем. Мне становіцца знобка. Сабраўшы апошнія сілы, непаслухмянымі рукамі бяру з кайстры крэсіва і нараджаю

маленькі кволы агеньчык. Частую яго сухім імхом, спялю яго, і сэрца маё напаўняецца радасцю. Ён расце, аддзячвае мне за клопаты – саграе мае азяблыя рукі, супакойвае і дае надзею.

Чорны птах у небе бачыць гэта і палохаецца за сваю здабычу. Ён высока ўзлятае і рэзка пікіруе ўніз, спрабуе ўзмахам крыла пагасіць маё адзінае дзіця. Але мой агонь сам жорстка карае драпежніка – перакідваецца на яго, і птах праз колькі хвілін гіне, ахоплены полымем, высока ў паветры.

“Дзякуй табе..." – шапчу агню, тулюся да яго, ледзь не плачу. Але агонь не адказвае мне. Барацьба знясіліла яго. Ён гіне таксама.

Я не магу даць яму новае жыццё.

Полымя няўмольна гасне. І разам з ім і я губляю апошнюю моц, і жах – жах ад усведамлення неабарачальнасці існага – робіць апошнія імгненні нашага жыцця невыноснымі.

Агонь і я...

## ЗАНЯПАД
*Паэма*

## УСТУП

... І галасы працінаюць сцены.
Аднесеныя далей аркушы спачываюць,
каб пасля завіснуць у паднябессі.
Агнямі вітаю надыход Твой.
Будзе Вялікі Боль. Адтуль, з глебы,
енк прадзіраецца на паверхню.
Але не стой тут, ідзі за далягляд –
я там чакаю Цябе.

## І
Заняпад абумоўлены шчырасцю веры...
Я адзін. На пажоўклай ад часу паперы
праступае таямнічае вязьмо. Лямпа
пад ружовым абажурам згасла раптам.

Цемра. І толькі свіціцца праз дзірку ў фіранцы
маладзік, застылы ў прадчуванні раніцы.
Абцяжаранае змрокам паветра хутка гусцее,
захлынаюся ва ўласнай пасцелі,
бруднай ад дотыкаў чалавека-здані,
твар якога світае ад кожнага ўсплёску праны.

Трывожныя перапады горшаць стан хворага
мяне,

лічаныя хвіліны застаюцца да смерці ўва сне.
Выходзіць, што спасціжэнне ісціны дадзена
тым,
каму пашчасціць нарадзіцца апошнімі. Бо затым
імгла паглыне гэты свет, і велічны Бог
укленчыць ля стылае Вечнасці ног.

Ісціна набліжаецца да мяне з хуткасцю святла,
асляпляе і спальвае памяць маю датла.
Лямпа пад ружовым абажурам асвятляе пакой,
цьмянае ззянне і няўлоўнае нешта — вакол.

**II**
Аморфнае ўспрыманне падлягае рэканструкцыі
з мэтаю выявіць прычыны заняпаду. Вуснае
сведчанне не прымаецца пад увагу суддзямі –
грузнымі, гнюсамі, бязглуздымі.
Адвакаты — паабапал. Публіка гурбамі
кідае ў мой бок рэплікі грубыя.
Голас пракурора: “Вораг! Вораг!
Прысяжны (выкшталцоны фрэнолаг)
з надзьмутымі вуснамі пагарджае мною,
пырскаючы на суседа злева слінаю.
Прысуд адназначны і безапеляцыйны:
неадкладна на стол аперацыйны
для тэрміновай трэпанацыі чарапной каробкі
без прымянення анестэзуючых сродкаў.
Вось так. Між іншым, вышэйнапісанае
зыходзіць з вымярэння антыастральнага.

Сёння не будзе фэсту — знікла ілюмінацыя.
Натоўп, апрыстойнены фізічнаю працаю,
разыходзіцца; адзіным напамінкам пра існае
аўтамабіль на пераездзе фарамі бліскае.

**III**

Забыццё нагадвае страту прытомнасці
аднолькавасцю трывалай няпомнасці.
Далей — болей. Але рознасць змесціва
пабудову ўшчэнт перакрэслівае.
Застаецца толькі гісторыя хваробы
і дылетанта расчараваны воблік.
Марна. У пашчы ўсёеднае пусткі
знікаюць апошніх здагадак згусткі.
Унікнуць скону не ўяўляецца магчымым,
перад вачыма — акно прачыненае,
уверсе — дах гмаху высознага з тэлеантэнамі,
долу — мае ўласныя рэшткі тленныя.
Я сузіраю глыбіні Вечнасці — ніводнае
недарэчнасці!

**IV**

Парасткі новага пакалення голасна
вераю ў беззаганнасць жыцця поўняць нас.
Школьныя падручнікі дрэнныя
ў адваротным запэўніваюць.
Ілжэпрарокі словамі зычнымі
сябе ў месіі залічваюць.
Фарбы нораваў на палітры сусвету

змяшаныя намі дашчэнту.

**V**

Промняў паміраючага сонца – працьма.
Незасланы ложак. Цень абязмоцнены
пнецца адолець межы падлогі.
Стогнамі пакой як ніколі напоўнены.
Ляскат скіўіцаў.
Свята сціпласці
усчынаецца з уласнае літасці.

**VI**

Холадна. Холадна. Холадна.
Навокал – злая золь адна.
Вецер ашаламляльнымі парывамі
дражніць дрэвы маўклівыя.
Спагнана пазычанае. Каляныя
думкі вярэдзяць раны мае.
Поруч — памяць, некалі гнаная,
нямая гамана паміж намі. І
там, у небе, цьмянееццa гнеўна
пагрозлівая аблачына залеўная.